Год выдавецтва II. ЦАНА НУМАРУ 30 гр.

# ПРАВАСЛАЎНАЯ БЕЛАРУСЬ

Царкоўна-грамадская і палітычная часопісь.
(Орган Праваслаўнага Беларускага Дэмократычнага Аб'яднаньня).
(Выходзіць 3 разы ў месяц).

№ 7 (13) | 7 САКАВІКА. | 1928 г.

АДРЭС РЭДАКЦЫІ: Вільня, Гэтманская вуліца № 4, кв. 16.

ПАДПІСНАЯ ЦАНА: на 1 месяц: 80 гр. на 3 месяцы: 2 зл. 00 —

ЦАНА АБВЕСТАК: на 1-шай старонцы 30 гр., пасярод тэксту 25 гр., на апошняй старонцы 20 гр., за рад. пэтыту.

## „АСТАТНІ АКТ“

Першы акт нашае выбарнае працы ўжо адбыўся. У гэту нядзелю мы ўжо аддалі сваe галасы, за сваіх кандыдатаў у Сойм.

Рэзультаты выбараў мы зьмешчаем ніжэй.

Але гэтым першым актам яшчэ не кончылася наша выбарная работа, яшчэ ня выпаўнены наш грамадзянскі абавязак: у наступную нядзелю мы павінны яшчэ раз пайсці да ўрнаў, каб выпаўніць *апошні акт нашага грамадзянскага абавязка*, — каб палажыць свае галасы за сваіх кандыдатаў **у Сэнат**.

Уперад за ўсё мы павінны засьцярагчы нашых грамадзян, каб яны ня думалі, што гэты акт, — выбару ў Сэнат, — меней важны, чым выбары ў Сойм. Мы павінны добра ведаць, што паводле Польскай Канстытуцыі, ні адзін закон, ні адна ўстава *не мае сілы, пакуль ня пройдзе ня толькі праз Сойм, але і праз Сэнат,* дзеля чаго ў уставадаўчым парадку ён мае такое самае значэньне, як і Сойм.

Але з нейкага пункту гледжаньня ў самым працэсе ці заканадаўства, ці агульнай дзяржаўнай палітыкі, ён на практыцы можа ін-

шы раз адыграць ролю яшчэ большую, чым Сойм, бо палажэньне Сэнату выгаднае ў тым сэнсі, што ў ім справы разгляджываюцца *пасьля Сойму*. Сэнату ўжо бывае ведама ня толькі зьмест тых ці іншых уставаў, якія праходзяць у Сойме, але і ўвесь працэс, увесь прабег соймавай працы, усі прамовы паслоў, усі тыя ці іншыя кірункі, на якія кожная партыя імкнецца паварнуць заканадаўчы воз,—яму ўжо ведама тая ці іншая аргументацыя, тыя довады і доказы, на якіх кожны кірунак грунтуе свае вывады. Яму ведама ўжо ўсі пункты гледжаньня, з якіх Сойм разглядаў той ці іншы закон.

Як гэта часта бывае, калі, напр., двое іграюць у шашкі ці ў шахматы, дык *трэцьцяму са староны відней бываюць амылкі ігракоў*, так і Сэнат, разглядаючы справу, ужо прагледжаную і зацьверджантю Соймам, часта заўважывае тыя амылкі, якія Сойм мог не даглядзець у пылу гарачай партыйнай, ці клясавай барацьбы. Часта бывае, што і сам Сойм заўважывае які небудзь свой «промах» толькі пасьля таго, як справа ўжо кончана і знятя з парадку дня, так што самі паслы Сойма праз сваіх калег у сэнеце стараюцца ўнясьці ў Сэнат тую ці іншую папраўку. Вось, за што ўва ўсіх странах, дзе істнуе дзвюхпалатная сістэма (Сойм і Сэнат), заўседы *Сэнат* складаецца *з меншага ліка асоб, але старэйшых па ўзросту*. Гэта робіцца для таго, каб ізноў кожную справу разгледзіць яшче раз у больш спакойнай ураўнаважанай атмасфэры.

Але-ж з другога боку, робіцца гэта і для таго, каб іншы раз затрымліваць працу Сойма, каб ня даць прайсьці ў жыццё тым законам, якія больш бываюць карысны для ніжэйшых масаў, для працоўнага народу, бо часта да сэнату пападаюць людзі з абшарніцкім духам і псіхалогіяй, настроенай у сацыяльным сэнсі проці працоўнага народу, а ў нацыянальным—проці народу Беларускага.

Вось за што яшчэ важней нам мець сваіх барацьбітоў у Сэнаце, как яны падтрымалі, ці не далі зьнішчыць і сапсусь усялякі той закон, які будзе карысны для нашага народа,—каб не прападала праца нашых змагароў у Сойме.

Пяцёхгадавы прабег працы былых Сойма і Сэната дае нам ня мала прыкладаў, калі справы ўжо разважаныя Соймам ізноў, па пераглядзе ў Сэнаце, варочаліся да Сойму, і Сойм згаджаўся, ці не, з тымі папраўкамі, якія рабіў Сэнат.

З гэтага ўсяго відаць, што ў заканадаўчай машыне Сэнат так сама мае вялікае значэньне і што мы не павінны аднасіцца да справы выбараў у Сэнат з меншай павагай чым да Сойму *і 11 сакавіка мусім выпаўніць свой грамадзянскі абавязак, як і 4-га ў дзень выбараў у Сойм.*

*Памятайце аб гэтым, грамадзяне, крэпка* і ўсе ідзіце ў гэты дзень да урнаў і кладзіце свае галасы за сваіх кандыдататаў у Сэнат.

Памагайце адзін другому. Хто мае каня,—запражы і ня только едзь сам, але і памажы даехаць другому, каму цяжка дайсьці да свайго абвода.

Галасаваньне—гэта ёсьць наш адзіны спосаб прыняць удзел у агульна дзяржаўным палітычным жыцьці і зрабіць уплыў на палітычную судзьбу свайго народа і сваей бацькаўшчыны.

**Астатні акт наступае!**

**Усе да урнаў!**

**В. Васілевіч.**

# За каго галасаваць у Сэнат?

11-га сакавіка ўсе грамадзяне ўзноў па-вінны быць пры урнах, каб узноў падаць свае галасы за сваіх кандыдатаў, — цяпер ужо — ў Сэнат. І ўзноў ў ня зусім сьвядомых грамадзян беларусаў можа ўсплыць пытаньне: За які нумар галасаваць.

Нашы чытачы добра ведаюць, што мы стаім за тое, што Беларусы павінны галасаваць толькі за адзіны беларускі сьпісак **№ 18**. Але мы ня хочам, каб гэта рабілася ня сьвядома; мы хочам, **каб кожны Беларусь ведаў, за што ён павінен галасаваць толькі за гэты сьпісак, а ні за які іншы.**

Мы ўжо ня будзем гаварыць доўга аб **польскіх сьпісках**. На прыкладах партыяў „П.П.С." і „Вызваленьня" ўсе Беларусы пераканаліся ў тым, як польскія партыі ў Сойме „баранілі" нашыя інтэрэсы, і той, хто ня хоча „асадніцкай палітыкі", той ўжо ніколі **ня падасьць свой голас, ані за 2, ані за 3 нумар. Ня можам мы падаць свайго голасу і за адзінку**, г. зв. „Безпартыйны Блёк спулпрацы з жондам", бо мы ня хочам ужо наўперад аддаць сваю свабоду якому-б ні было жонду. Калі гэты жонд па разглядзе яго працы ў Сойме і Сэнаце акажацца для народу карыстным, ці не карыстным, дык нашы прэдстаўнікі, нашы паслы, змогуць выявіць яму свае даверые ці недаверые. А ўжо наўперад выяўляць гэта даверые, наўперад аддаваць свае правы і сваю свабоду таму ці іншаму ураду можэ толькі той, хто несьвядомы, што да самых падставаў рэспубліканскага устрою. Галасуючы за гэты блёк „спулпрацы", ён тым самым робіць ня „жонд" залежным ад сойма, як трэбуе гэтага нават сама польская канстытуцыя, але сойм залежным ад ураду, так што, **калі-б нават пэўны урад аказаўся для народу дрэнным, дык ужо ніхто ня мог-бы яго зьмяніць легальным парадкам**, бо урад будзе ужо мець адпачатку падгатаваную большаосьць сваіх прыхільнікаў. Вось чаму мы **не павінны галасаваць за 1 — ку.**

Але па нашай Беларусі ня мала ёсьць партыяў, якія называюць сябе беларукімі але-ж якія працуюць за грошы польскіх партыяў і такім чынам прадаюць беларускія галасы на карысьць гэтых партыяў.

Да гэтакіх прадажных беларускіх партыяў належуць усім вядомыя арганізацыі **Паўлюкевіча, Умястоўскага**, а у астатнія часы далучыліся да іх **Чатырка** ў Навагрудчыне і **Станкевіч Янка**, працуючы галоўным чынам у Лідчыне- Умястоўскі ужо выявіўся ясна і адкрыта далучыўшыся да № першага. Чатырка і Станкевіч выпусьцілі **свае** сьпіскі. Але-ж нам здаецца, што ужо лепш нават адкрыта перайсьці на варожую старану чым скрытна за чужыя грошы працаваць на чужую карысьць, як робяць гэтыя „дзеячы".

Атрымліваюць грошы ад гэтай партыі яны ведама ня дарма. Гэтым самым яны ускладываюць на сваіх будучых дзеячоў абавязак падтрымліваць і выражаць даверые пэўнаму ураду. Вось за што мы **ня можам галасаваць за гэтыя нібы „Беларускія" сьпіскі.**

Тоя самае мы павінны сказаць і аб расейскім сьпіску (№ 20). Доўга ня ведалі мы, на якія грошы яны працуюць. Але-ж вось у № 37 савецкай газэты „Праўда„ надрукавана было перахопленае бальшавікамі пісьмо былога расейскага дыплёматычнага прэдстаўніка у Варшаве В. М. Горлава да былога расейскага пасла у Парыжу Гірса, дзе ён пішэ, што прэдстаўнік Р. Н. О. (Рускае Народнае Об'еднаньне) Сярэбрэнікаў зварачываўся да адпаведных прэдстаўнікоў міністэрства Унутрэніх Спраў (у пісьме названы і іх прозьвішчы) і прасіў іх аб запамозе. Яму сказана, што Урад запамог: на палітычную працу даць ня можа, але яны могуць атрымаць яе ад урадавых палітычных групаў.

Бальшавіцкія крыніцы для нас не аўторытэт, і мы можам ім і ня верыць, але Р. Н. О. само выдае сябе надрукаваўшы у газэце „За Свободу!" (29 лютага) адозву, у якой заве усіх расейцаў у тых вакругох, гдзе няма сьпіску № 20, галасаваць за № 1! Цесная сувязь Р. Н. О. з адзінкай такім чынам выявілася

зусім ясна, што робіць праўдападобным тое, што пішэ аб Р. Н. О Горлаў.

Ясна адсюль, што астаецца толькі адзін беларускі сьпісак, — гэта сьпісак № 18, які нікому не прадаваўся і ні ад каго не залежыць. Нашы праціўнікі нам закідаюць, што мы працуем з жыдамі і ад іх бярэм грошы. Само сабой ясна, што калі ў Блёк увайшлі розныя партыі і розныя меншасьці: Беларусы, Украінцы, Жыды, Немцы, дык і грошы на выдаткі па выбарнай справе павінны ісьці ад усіх тых партыяў і тых меншасьцяў, якія ўваходзяць у іх. Тут ідзе ўзаемная дапамога і грашмі, і працай і тэхнічным апаратам, але-ж гэта дапамога ні перад кім нас не абавязывае. Нікому мы лішніх мандатаў не даем і нікому нічога не абяцаем. Мы толькі дзякуючы злучэньню ў Блёк маем магчымасьць правясьці больш сваіх кандыдатаў чым бяз Блёку. Але мы астаемся вольнымі і не залежнымі ў сваіх пераконаньнях і ў будучай працы.

Праўда, ня любяць нас за гэта польскія партыі; нас перасьледуюць, перашкаджаюць нашай працы. Па наветам нашых ворагаў і па падазрэньням арыштуюць і садзяць як ведама ў турмы нашых працаўнікоў у той час, калі розныя Р.Н.О., Янкі Станкевічы і Чатыркі працуюць зусім вольна. Але-ж мы лепш згодзімся цярпець і мучыцца з высока паднятай галавой, чым карыстацца з „ласкі панскай" з сагнутай сьпінай і уткнутым у зямлю тварам. Лепш атрымаць менш мандатаў, — мець менш паслоў, але каб гэтыя паслы былі не залежныя і самастойныя ў сваіх пераконаньнях і ў сваей парлямантарнай працы.

Гэтага вымагае ад нас павага нашага народу і будучыня нашае Царквы і нашае Бацькаўшчыны.

Няхай яна жыве!

Галасуйце-ж, грамадзяне, за **№ 18**!

**Сябра.**

**Увага Рэдакцыі:**

## Хто з Беларусоў ідзе па сьпіску № 18 у Сэнат?

**Па Віленскаму ваяводзтву — В. БОГДАНОВІЧ** б. сэнатар, ведомы царкоўны дзеяч і абаронца свабоды і правоў Царквы, супрацонік „Праваслаўнай Беларусі".

**Па Наваградзкаму ваяводзтву — В. РАГУЛЯ** б. пасол сойму, і б. старшыня Беларускага Клюбу ведамы палітычны дзеяч, старшыня „Сялянскага Саюзу" і Багдановіч Сямён з Слоніма.

**Па Беластоцкаму ваяводзтву — той-жа В. БОГДАНОВІЧ і КАРП ЗЯНЮК**, якога добра ведаець Горадзеншчыня і Бельшчына, як беларускага дзеяча; шчырага працоўніка.

# Галасы Расейцаў.

Рассейцы як ведама пайшлі асобным сьпіскам. Рэзультаты гэтага былі тыя, якія мы і прадсказавалі ім: **ніводнага мандата на Беларусі яны ня правялі**, але-ж адбілі у нас частку галасоў. Гэта прадугледжывалі некаторыя з саміх рускіх. Стваралася і з іх групка, якая перад выбарамі у сойм выпусьціла ў Вільні гэтакую адозву. Прыводзім яе даслоўна ў расейскай мове.

## Русскіе Граждане!

Настало время выборов в Польскій Сейм и Сенат. Необходимо немедленно дать отвѣт, каково наше національное положеніе, с кѣм мы пойдем, каковы наши національныя задачи.

Мы — одно из національных меньшинств в Польшѣ. Как

всѣ національныя меньшинства, мы, русскіе, лишены нац. права. Чѣм больше нас, тѣм успѣшнѣе борьба за наши національныя права. Путь к нац. освобожденію единственный: об'единеніе всѣх наших внутренних нац. сил со всѣми прочими нац. меньшинствами. Залогом нашего русскаго и всѣх нац. меньшинств об'единенія да послужит общее всѣм нам нац. безправіе.

Мы призываем всѣх русских итти вмѣстѣ с Блоком Нац. Меньшинств в Польшѣ, с Бѣлорусским Центральным Об'единённым Выборным Комитетом Блока Нац. Меньшинств, который в лицѣ своих представителей в прошлом Сейме и Сенатѣ, стойко отстаивая права нац. меньшинства, тѣм самым отстаивал и наши права, а также общія нам, Русским, с Бѣлорусами права славянскаго меньшинства, связаннаго общностью происхожденія, общею родиною, наконец, общею матерью—Русскою Православною Церковью, самоотверженно борясь за свободу и независимость послѣдних. Пострадавшіе в борьбѣ за общее благо, они обрѣли русское нац. довѣріе. Отдадим же рѣшительно наши голоса на выборах Бѣл. Центр. Об'ед. Выборн. Комитету Блока Національных Меньшинств!

**Всѣ Русскіе за список № 18, в числѣ кандидатов котораго значится б. сенатор В. В. Богданович! И да не будет у нас, Русских, другога списка!**

Мы ничего не обѣщаем, мы призываем всѣх Русских к исполненію гражданскаго долга, к труду, во имя общаго нац. освобожденія, ибо только таким путем наши представители смогут выполнить возложенныя на них задачи.

Да здравствует Блок Нац. Меньшинств!
Да здравствует славянское единеніе Бѣлорусов и Русских!
Да здравствует Русская культура!

**К избирательным урнам за список № 18!**

**Временный Русскій Комитет по выборам в Вильнѣ.**

Праўдзівасьць гэтай адозвы так ясна сказалася цяпер пасьля выбараў у Сойм і ясна паказывае тую дарогу, якой павінны ісьці рускія пры выбарах у Сэнат.

**Няма чаго ім аддзяляцца ад беларускага народу, сярод якога яны жывуць, а трэба сваімі галасамі дапамагчы яму правясьці беларускіх прадстаўнікоў у Сэнат.**

З гэтым заклікам мы зварачываемся да ўсіх расейцаў ці русскіх.

**Рэдакцыя.**

**Усе Беларусы галасуйце да Сэнату за № 18.**

# 10 гадоў таму назад.

(З успамінаў аб працы Маскоўскага Сабору ў часе бальшавіцкага перавароту)

(канчатак).

Царкоўная працэсія, урачыстае багаслужэньне і тое гарачае ўчасьцьце, якое ўва ўсім гэтым прыняў увесь Маскоўскі праваслаўны народ, пераканала бальшавіцкую уладу ў тым, што народ моцна трымаецца сваей Царквы і сваей веры і што ў гэтым пункце яго ня возьмеш адразу, простай атакай. Дзеля гэтага яны парашылі пачаць павольную падгатаваўчую працу, каб адцягнуць народ ад царквы. Яны часова спынілі простыя ўціскі царквы, а ўсюды па Маскве сталі арганізоўваць процірэлігійныя мітынгі. На адным такім мітынгу прышлося быць і мне. Аб гэтым мітынгу ў мяне дасюль захаваліся запіскі, зробленыя тагды „на сьвежую памяць“, дзеля чаго я магу перадаць больш ці меньш падробна тое, што я там бачыў.

Пачуўшы аб адным такім мітынгу на Замаскварэччу, некалькі сяброў Сабора, у тым ліку пратаіерэй Бекарэвіч і я, рашылі пайсьці і паслухаць, а калі можна будзе, дык і выступіць на мітынгу.

Мітынг ішоў пад назовам: „Царква і бальшавікі“. Пачаўся ён прамовай Е. Яраслаўскага, вядомага праціўцаркоўнага бальшавіцкага дзеяча. Прамова яго галоўным чынам складалася з розных нападкаў не на веру і царкву, а на духавенства.

„Нашы папы, гаварыў ён, жадныя, карысталюбівыя. Іх бог, казаў ён, даўно ўжо не на небе, а на зямле. Ён знаходзіцца ў банках і ў „зьберэгацельных касах“, у працэнтовых паперах, у купонах і г. д. Яны ходзяць у дарагіх царкоўных адзежах, у залатых крыжох і залатых шапках (у мітрах), у рызах і раскошных мантыях“.

„Яны ўвесь час маўчалі, ім ня дорага была іхная вера, а вось цяпер, калі зачапілі іх матэрыяльны дабрабыт, калі адбіраюць іхнае дабро, дык яны адразу і спалохаліся і робяць цяпер пратэсты проці сьвецкай улады. Ім мала таго „жалаваньня“, якое яны атрымліваюць, той зямлі, якой яны ўладаюць. А зямлі гэтай так многа, асабліва па манастырох: напрыклад у адным Салавецкім манастыры 70 000 дзесяцінаў зямлі. Духоўныя людзі толькі другіх вучаць цярпеньню і сьмірэньню і „безкарысьцьцю“, а самі наадварот нічога гэтага ня робяць. Яны ня любяць бедных людзей, яны больш імкнуцца да багатых, з якімі дружаць і вядуць кампанію (тут Яраслаўскі прачытаў 23 главу ад Матфея, гдзе Хрыстос гавора прамову проці „кніжнікаў і фарысеяў“). Духавенства паўстае проці нас за тое, што баіцца за свае грошы, за сваю зямлю, а не паўстае проці таго, проці чаго павінна было-б гаварыць: проці прысягі, проці вайны, бо яны наадварот благаслаўляюць вайну, ня гледзючы, што Хрыстос вучыў любіць ворагаў. Мы, бальшавікі, — казаў ён, — ня уціскаем рэлігіі, але мы паўстаем праціў яе за тое, што прадстаўнікі яе стаяць за багатых, а не за бедных, што яны кланяюцца „сільным міра“, што яны завялі Распуціна пры царскім двары“...

Так і ў гэтым родзе гаварыў доўга Яраслаўскі. У такім напрамку падобнае гэтаму гаварылі і іншыя бальшавіцкія аратары. Саля спатыкала гэтыя прамовы воплескамі, але далёка на ўсіх: відаць было, што сярод сабраўшыхся далёка ня ўсе спачувалі таму, што гаварылі бальшавіцкія аратары. Відаць было, што Яраслаўскі заўважыў гэта, дзеля чаго гаварыў асьцярожна, каб не абразіць рэлігійнага пачуцьця, і, як я ужо казаў, нападаў выключна на духавенства, а не на веру.

Убачыўшы, што сярод слухачоў ёсьць сьвяшчэньнік (прат. Бекарэвіч), многія з іх прасілі бацюшку, каб ён выступіў з адказнай прамовай. Падалі заяву старшыні мітынгу, і той, хоць ня дужа ахвотна, але заяву прыняў і гаварыць дазволіў.

Стары і з сівой барадой пратаіерэй Бекарэвіч узыйшоў на трыбуну і пачаў гаварыць, — уперад ня сьмела, паціху, пакуль бараніў духавенства, а пасьля,

як стаў гаварыць аб веры і Царкве, — усе гарачэй і гарачэй. Гаварыў ён прыблізна гэтак:

„Тое што я буду гаварыць вам напэўна дужа многім не падабаецца, але ўсе-ж я думаю, што многім людзям, тут сабраўшымся, будзе карысна выслухаць прамову старога сьвяшчэніка, бо і прыслоўе гаворыць, што „стары конь баразны не псуе".

„Вось вы тут выслухалі больш за ўсё вападкаў на духавенства, у якіх можа і многа справядлівага, але-ж гэта адразу неправідловая пастаноўка справы. Няхай праўда тое, што духавенства дрэннае, што яно любіць грошы, што яно адхілілася ад народу, што яно наагул не стаіць на такой маральнай вышыні, на якой стаяць павінна... Які-жа з гэтага можна зрабіць вывад? Адмовіцца ад веры і Царквы? — Не! Вывад той, што трэба замяніць дрэннае духавенства добрым, — такім, якое стала-б бліжэй да народа, якое ўзапраўды вучыла-б народ добраму, якое ня ганялася-б за грашыма, ня старалася-б выслужыцца перад сьвецкай уладай, — можа нават трэба зьмяніць увесь той царкоўны строй, які даў такое духавенства. Што духавенства ў нас ня адпавядае свайму ідэалу, — гэта вялікае гора Царквы, але Царква дужа часта зусім непавінна ў гэтым, бо яна сама залежыла ад дзяржаўнай улады і сама ня мела ў сябе патрэбнай фізычнай сілы гэта зрабіць. Вось цяпер у Маскве больш паўгода працуе царкоўны Сабор, якога не было ўжо ў працягу 200 гадоў і гэты сабор як раз і выпрацоўвае такія правілы і царкоўныя законы, якія павінны зьмяніць папярэднія парадкі і між іншым палепшыць і духавенства. Але-ж з гэтага зусім ня выходзіць што з-за духавенства мы павінны траціць і веру, і Царкву.

Аднак і тое што вы гаворыце аб духавенстве далёка ня ўсё і не аб усім духавенства справядліва. Ёсьць сярод духавенства ўсякае, ёсьць і такое, аб якім казаў п. Яраслаўскі, але-ж далека ня ўсё такое, бо ёсьць і ў поўным сэнсе гэтага слова „добрыя пастыры". Але добрых мы ня заўважываем, а дрэнных бачым.

Духавенства, як і Хрыстос сказаў, павінна быць „сьвяцільнікам", быць тым чым лямпа ў хаце. Але-ж бывае так, што пакуль лямпа сьвеціць добра, дык ніхто на яе ня зварачвае ўвагі, ніхто ей ня дзякуе, а як накапціць, дык тады ўсе сварацца і ругаюцца. Так і з духавенствам: добрага ніхто ня заўважывае, а на дрэннае ўсе глядзяць і нібы рады, што знайшлі і ў папа грахі і недачоты.

Вы кажаце, што духавенства любіць грошы, любіць банкі, „зьберэгацельныя касы" і г. далей. Ёсьць і такія, але ці многа-ж з іх асоб багатых? Дужа і дужа мала. Больш бывае так: паміраe сьвяшчэнік і сям'я яго астаецца зусім бяз хлеба, калі ў складзе яе няма новага кармільца. У духавенства ёсьць зямля, — няхай так. Але ці іхняя-ж гэта зямля? Зямля — царкоўная, і карыстаюцца з яе сьвяшчэньнікі пакуль жывы. Вы кажыце: у Салавецкам манастыры 70.000 д. зямлі. Гэта так. Але ці ведаеце-ж вы, што гэта за зямля? Гэта быў пустынны востраў сярод белага ледавітага сьцюдзённага мора, амаль ня сплашны камень. Тысячагодзьдзі стаяў ён зусім пустыняй. Калі туды прайшлі першыя манахі-адшэльнікі, дык там жылі толькі дзікія зьверы і марскія птушкі. Пасяліўшыся там, манахі сталі маліцца Богу і працаваць, — і вось разпрацавалі лепшыя кавалкі зямлі, зрабілі найлепшыя нівы і гароды, завялі няўстаннай працай добрую гаспадарку, найлепшы скот, збудавалі вялікі манастыр, у якім цяпер штодзенна корміцца сотні і тысячы богамольцаў, — трэба-ж для гэтых богамольцаў хлеб? А хто-б яшчэ апрача гэтых афярных манахаў рашыўся пасяліцца на дзікім пустынным востраве? *). Хто-б з вас захацеў узяць сабе ў надзел такую зямлю на дзікам востраве ў сьцюдзёным суровым клімаце на дальняй поўначы?

Вы кажаце, быццам духавенства цяпер пратэстуе проціў бальшавікоў за тое, што яно спалохалася за свой матэрыяльны дабрабыт. І гэта няпраўда: сацыялізаваў царкоўную зямлю яшчэ урад Керэнскага, але тады духавенства не пратэставала. А вось калі вы забараніваеце людзём вучыцца Закону Божаму, мы пратэстуем проці гэтага горача, хоць гэта і не адзываецца на нашым дабрабыце так, як адабраньне зямлі. Ня за свае кішэні цяпер заступляемся мы,

*) Бальшавіцкая улада цяпер з гэтага манастыра зрабіла турму. (Рэд.).

а заступляемся за веру і за Царкву, бо Вы гаворыце, што даецё свабоду веры, што ня перашкаджаеце Царкве ў яе духоўнай працы, але гэта вы толькі гавораце так *тут*, публічна, перад народам, а з вока на вока самі гавораце, што ніякой веры і Царквы ня трэба, што ўсё гэта трэба зьмясьці са сьвету, — што рэлігія опіум для народа і гэтак далей, бо вы ўмееце фальшаваць і прыкідывацца. Вось і тутака вы, каб скрыўдзіць пастыраў прывадзілі нават тэксты з сьвяшчэннага пісаньня але прывадзілі фальшыва. П. Яраслаўскі, чытаючы 23 главу ад Матфея пра фарысэяў наўмысьлі прапусьціў мейсца, дзе сказана: „ўсё што яны гавораць, — тварыце". Няхай тое, што робяць духоўныя дрэнна, але тоя, што яны гавораць, чаму вучаць, тое ёсьць запраўдная навука Хрыстова і тутака вы павінны іх слухаць.

Вы аднака і тут хацелі сфальшаваць, — быццам і ў сваей навуцы духоўныя гаварадь няправідлова: аб вайне аб прысяге, аб багацтве.

Ня праўда, быццам духавенства любіць вайну і благаслаўляе вайну як вайну. Ніхто яе ня любіць. Запытайцеся ў духоўных, — вы ня знойдзеце амаль ні воднага, у каго ў гэту вайну ня згінуў ці ня скалечаны ці сын, ці брат, ці ўнук, ці пляменьнік, — як і ўва ўсіх нас. Ня благаслаўляе яно вайну і не ад яго вайна залежыць. Але, калі вайна паўстала незалежна ад яго, яно вучыць людзей каб і на вайне людзі як і ўсюды былі чэснымі, вернымі, дабрасовеснымі і ахвярнымі, — каб маглі па запаведзі Хрыстовай аддаваць душу за *бліжняга*". Калі Хрыстос вучыў любіць ворагаў, дык ён гаварыў аб ворагах асабістых, для кожнага сваіх. Прашчай *сваю* абіду, *сваю* крыўду, і маліся за *свайго* абідчыка, як маліўся і Хрыстос за *сваіх* ворагаў, якія яго распіналі, але Ён жа горача ганіў ворагаў Божых і сабдазніцеляў народу.

Вы кажаце, што духавенства любіць толькі багатых. І гэта няпраўда, калі гаварыць агулам. Ці кожны з вас ня чуў у школе ад свайго законавучыцеля як яны тлумачылі яму евангельскае апавяданьне „аб багатым юнашы", ці аб „бязумным багачы". А калі яно бывае і ў дамох багатых, дык ня толькі радзі сваей карысьці, а часьцей радзі карысьці царквы ці карысьці бедных, — каб прыхіліць багатага да ахвяры. Так рабіў і Хрыстос, калі Ён напрыклад заходзіў да багача Закхея і прыхіліў яго да раздачы нішчым „палавіны іменія".

„Духавенства любіць насіць драгацэнную адзежу, залатыя крыжы, мітры". Але ці іхная-ж гэта адзежа? Гэта так сама больш за ўсё адзежа царкоўная, якая знаходзіцца ў духавенства толькі ў карыстаньні і якую яны так шчыра і ўважна сьцярагуць. Вось, прыклад: у Крамлі колькі стагодзяў была „патрыаршая рызьніца", у якой хранілася шмат бязцэнных сакровішчаў. І ўсе яны былі цэлы, пакуль былі на руках у духавенства, а цяпер ня ўспелі пабыць на руках у бальшавікоў і двух месяцаў, як яны ўжо аказалася абкрадзенымі на 25 мільёнаў!

Дык хто-ж больш карысны і хто больш цягнецца да грошаў і драгацэннасьцяў?

„Але ізноў я гавару гэта не за тым каб бараніць толькі духавенства. Няхай сабе яно дрэннае (і сярод яго ёсьць і токое!), але-ж гэта зусім не адзначае, што трэба спыніць веру і Царкву. Веру і Царкву вы ніколі ня спыніце, бо і самі чуеце яе жыцьцёваю сілу і моц. Ня дарма-ж вы і цяпер стараецеся нападаць на нас з Евангельям у руках".

„І калі-б вы нават у сваем сацыялістычным вучэньні трымаліся-б хрысьціянскіх поглядаў, дык напэўна-б і гэта навука выглядала-б іначай і плады ад яе былі-б іншыя: не барадзьба, не жываедзтва, ня споры і сваркі, ня жорскасьць і крыважаднасьць. Вы самі жывеце толькі тым, што сярод вас ёсьць людзі, выхаваныя на ідэях хрысьціянскіх. А калі-б такіх людзей старанных сярод Вас не было-б, дык даўно-б ад вас нікога не асталося, бо вы-б з'елі адзін другога".

Так, у гэтакім родзе гаварыў доўга бацюшка. Відаць было, што сярод слухачоў было дужа многа, якія з прыемнасьцю слухалі гэтую прамову радуючыся, што знайшоўся сьмелы чалавек, які ня пабаяўся выступіць на гэтым мітынгу, каб абараніць веру і Царкву, а нават і агульныя нападкі на духавенства. Пасьля бацюшкі выступалі і іншыя аратары. Мітынг станавіўся ўсё гарачэйшым, але ў нас ужо ня было часу, і мы павінны былі ісьці дамоў, — ведама пяхатой

верст 6 па Маскве, каб пасьпець зайсьці дамоў да таго часу, у які ўжо хадзіць забаранівалася.

Гэты мітынг яшчэ раз пераканаў мяне ў тым, аб чым я гаварыў і раней. Народ крэпка стаў там за веру і Царкву, — ня за вонкавыя яе формы, а за яе навуку і за яе строй. Ён больш менш спакойна перанёс зьмену рэжыму палітычнага, але ён ня пусьціў бальшавіцкіх рук да сьвятога святых сваей душы, — да сваей веры.

**В. Багдановіч.**

# Бяз грунту

(Да пытаньня аб прававым і кананічным становішчы Праваслаўнай Царквы ў Польшчы).

Такі рэзультат „працы" афіцыяльнай іерархіі ў закрэсе прававога становішча праваслаўнай царквы ў Польшчы: замест былога ўзапраўднага прававога (фармальна) становішча — „тымчасовыя правілы", „непригодность которых выяснилась весьма скоро послѣ их изданія и была признана всѣми" *).

Так цяпер самі прызнаюцца нашы афіцыяльныя іерархі ў шкадлівасьці сваіх чынаў, а тады пісалі, што гэтыя правілы ёсьць акт, „выводящій Церковь из безправнаго положенія".

Але зьнешняе палажэньне Царквы, як бы яно ні было дрэнна, ёсьць нішто ў параўнаньні з той шкодай для Царквы, якую нарабіла гэтая-ж самая царкоўная ўлада, адмовіўшыся ад кананічных асноў сваей Царквы, бо гэта ўжо пазбавіла грунту ня толькі зьнешнеправавое, але і ўнутраньне-прававое палажэньне Царквы, тым больш, што гэтая ўнутраняя бязгрунтоўнасьць адбіваецца ізноў і на зьнешнем становішчы.

У астатнія часы так многа гаворана аб саборным строе, ці „Саборнасьці", у праваслаўнай царкве, што гэта ўжо стала ўсім ведамай ісьцінай. Дзеля гэтага мы ўважаем тут зусім лішнім даказываць патрэбнасьць і неабходнасьць гэтага строю, тым больш, што ў астатнія часы патрэбнасьць Сабораў і саборнасьці на славах не адкідае і сама афіцыяльная царкоўная іерархія. У **астатнія часы**,... але-ж мы ведаем што ўсё тое, што **дасюль** яна рабіла, было якраз наперакор гэтаму саборнаму строю. Адсюль відаць, што тоя, што яна і **цяпер** гаворыць з'яўляецца няпраходным „ліцэмерыем".

Бяз усялякага сабору гэта іерархія ўтварыла Сінод, бяз усялякага сабору прыняла „тымчасовыя пшэпісы", бяз сабору ўсунула законных (кананічных) выбранных іерархаў, бяз сабору аддзялілася ад Маскоўскага патрыархату, бяз сабору ўвяла аўтакефалію, бяз сабору зьмяніла самыя асновы саборнага строю, пачынаючы ад прыхоцкіх (парафіяльных) саветаў, без сабору ізноў увяла кансісторыі, а цяпер, калі ўся Царква абурылася, калі падняўся ў грамадзянстве праваслаўным, у газэтах, агульны пратэст процiў гэтага пагвалчэньня саборнага строю Царквы, цяпер яна стараецца пераканаць усіх, што і яна стаіць за саборнасьць.

У такім сэнсе, напрыклад, напісана перадавая стацьця ў „Воскр. Чт." № 4 за 1927 г. Стацьця гэта мае на мэце даць адказ розным газэтным стацьцям, якія нападаюць на іерархію за спыненьне саборнасьці. Увесь яе сэнс, дух і характар так ясна напамінае вядомую басьню: „Друзья, к чему весь этот шум" і г. далей. Але-ж фактаў не пераробіш і славамі іх ня пераможыш.

Між іншым невядомы аўтар успамянутай стацьці стараецца пераканаць нас, што не царкоўная ўлада вінавата ў гэтым, — бо не дазваляла скліканьня Сабору ўлада сьвецкая; а ўлада царкоўная нібы хацела Сабору і змагалася за яго. Мы з поўным перакананьнем гаворым, што гэта ня праўда, бо з самага пачатку, пачынаючы яшчэ ад „З'езда прадстаўнікоў праваслаўных прыходаў" (у жніўні 1921 г.), які „сарваў" нынешні

*) См. „Воскр. Чт" 1927, № 3, стр. 25.

мітрапаліт, а тагды епіскап Крэменецкі Дыонісі, не бяз помачы ўжо прыехаўшага ў Польшчу арх. Георгія, — гэта царкоўная ўлада ўсюдах ішла проціў усялякіх праяваў „церковной общественности“. Успамянуты, напрыклад, з'езд быў дазволены ўрадам, але проціў яго выступіў Дыонісі.

Мы ня гаворым аб тым, што-б сьвецкая ўлада **хацела** Сабору. Многа ёсьць прычын думаць, што яна дужа ня хацела яго, так сама, як і ўлада царкоўная, але ўрад ня мог бы і адмовіць у тым, што ёсьць падставай кананічнага істнаваньня царквы.

Калі ўрад згадзіўся на созыў з'езду прадстаўнікоў прыходаў, калі цяпер згаджаецца нават на ўкраінскія царкоўныя з'езды доктара Рачынскага, дык мы ні крыху ня сумляваемся, што ён даўбы і **ня мог ня даць дазволу на Сабор, калі-б гэтага хацела наша афіцыяльная праваслаўная іерархія**, асобенна калі-б гэты сазыв яна **паставіла на кананічны грунт.**

Трэба было толькі дамагацца дазволу с поўнай цьвердасьцьцю і, галоўнае, шчырасьцьцю. А калі-б ня далі дазволу, дык няма чаго было і рашаць без Сабору такія пытаньні, якія без Сабору адзін Сінод рашыць ня меў права.

У ўспамянутай стацьці „Воскр. Чт.“ аўтар яе, каб даказаць, што іерархія старалася аб Саборы, ўспамінае, што яшчэ ў 1923 годзе Сінод выпрацаваў нават і асобный статут і правілы для созыва Сабору, але ўрад яму гэтага не дазволіў.

Гэта праўда што Сінод, пад націскам агульнага абурэньня праваслаўнага грамадзяньства, а пераважна паслоў сойму і сэнату, і таго уражаньня, якое зрабіла забойства мітр. Георгія, гатоў быў сазваць сабор і ужо выпрацаваў статут сабору, але...

Вось тут і выясьняецца як найлепей „праца“ Сінода „на карысьць“ прававога палажэньня Царквы. Справа ў тым, што зусім і ня трэба было-б выпрацовываць новый статут Сабору, **бо статут такі ўжо быў** выпрацаваны Маскоўскім Саборам і **гэты статут быў кананічна абавязкавым** для праваслаўнай царквы ў Польшчы, а як такі, **паводле канстытуцыі абавязкавы ня толькі для царквы, а і для ўраду.** Іерархія такім чынам **сама атраклася ад кананічна - прававога становішча саборнай справы** і, выпрацаваўшы свой, **ні для каго не абавязкавы** статут, тым сама паставіла гэтую справу ў палажэньне „з ласкі панскай“ замест становішча кананічна-праўнага.

Дзеля гэтага мы зусім ня верым таму, што працуючыб над гэтым статутам, іерархі ўзапраўды імкнулася да саборнасьці, што **яны** шчыра жадалі ад улады дазволу сабору. Яны і тады баяліся: а што як раптам урад гэты сабор дазволіць?—Дзеля гэтага і прасілі **так**, каб ей адмовілі.

Варта толькі заглянуць у гэты статут, каб зразумець гэта. З усіх радкоў гэтага статуту так і б'е у вочы адна думка і адна абава аб тым, што, калі сабор узапраўды дазволяць, дык як бы забяспечыць сабе на гэтым саборы гвараптованую большасць галасоў, каб перамагчы гэтых так непажаданых ім міран і ніжэйшае духовенства. Каля 70% сябраў паводле гэтага статуту складаецца з такіх, якія ня выбіраюцца, а ліба ідуць „па должнасьці“ ліба **назначаюцца** архіереям. Ураженьне атрымліваецца такое, як быццам яны ідуць на Сабор ня раздзіцца з царкоўным народам, а ваяваць з ім як сваімі зьлейшымі ворагамі, так што статут сабора скарэй напамінае нейкі „мобілізацыйны плян“, падгатаўляючы да гэтае вайны. Вось гэта баязнь царквы, баязнь **свайго**-ж веруючага народа, ярка і выяўляецца перадусім ува ўсей працы іерархіі.

Адкуль гэта абава? Не баіцца адказу тот, хто нічога дрэннага ня зрабіў. А гэта царкоўная ўлада бяз сабору нарабіла столькі антыкананічных чынаў, што, ведама, даць справаздачу ў іх перад саборам ня хоча: а што калі сабор усе гэтае адменіць,—калі нават не прызнае кананічнай самую іерауxію? Вось яна і пытаецца сазваць такі сабор, на якім можна будзе паставіць на парадак дня толькі тое, што пажадана гэтай уладзе і рашыць так як уло наўперад вырашана, — каб толькі стварыць адну „**відзімасьць**“ сабору, а ня ўзапраўднае развважаньне царкоўных справаў.

(Працяг будзе).

**В. Богдановіч.**

# Працэс б. пасла В. Рагулі.

27-га лютага адбыўся ў Навагрудку суд над былым паслом і старшынёй Белорускага Пасольскага Клюбу В. Т. Рагуляй. Аб судовым выраку, мы ўжо паведамлялі чытачаў у папярэднім нумары: Рагулю засудзілі на 2 гады цяжкой турмы. Цяпер падаем некалькі паасобных абразкоў судовага працэсу.

Працэс суда вызначаны быў на 9-ю гадзіну раньніцы. Ад рана ўжо судовая саля, досыць абшырная, стала напаўняца публікай і скора ўсе мейсцы былі заняты, як гаворыцца, да адказу. Дужа многа пазасталася на двары і ў карыдоры суда, бо больш таго, як магло зьмясьціцца на лаўках, у салю ня пушчалі. Сярод публікі мала інтэлігэнцыі, больш кажухі і армякі. Усе цярпяліва чакаюць. Сам В. Рагуля на волі, як выпушчаны пад каўцыю.

Праходзіць ужо гадзіна дзесятая, адзінадцатая, блізка дванадцатая, а суд усё не пачынаецца. Пытаемся ў возьнага, —чаму? Аказываецца няма сьведкаў, з боку абвінавачаньня. Сьведкі абароны, якіх суд дапусьціў у ліку пяцёх (рэшце было адмоўлена) зьявіліся ўсі.

На рэшце з дзесяцёх сьведкаў абвінавачаньня, трох зьявілася. Пасьля зьявіўся і яшчэ, адзін і каля дванадцатай—пачалося судовае паседжаньне.

Судзіў Акружны Суд у складзе прэзэса Гламбоўскага і дзьвух судзьдзяў Мурзы-Мурзіча і Паўлюча. Абвінавачываў таварыш пракурора Дамброўскі. Баранілі віленскі адвакат Чэрніхаў і два навараздскіх—Беларусы: Свірыд і Аляксюк.

Па адчыненьні суда п. прэзэс зварочываецца да Рагулі з звычайнымі пытаньнямі.

Рагуля адказывае пабеларуску:

— Bazyli Ragula?
— Так.
— Ile lat?
— Сорак дзевяць.
— Jak? Sorak dziewiać?
— Так, сорак дзевяць.
— Po jakiemu to będzie sorak dziewiać?
— Побеларуску.
— A, po białorusku?
— Так...

Далей прэзэс не перашкаджае Рагулі адказываць пабеларуску.

Калі выясьняецца, што з боку абвінавачаньня, з дзесяцёх зьявілася толькі трох, абарона дамагаецца адсрочкі суда, бо некаторыя з паказаньняў гэтых сьведкаў, маюць важное значэньне і для абароны. Пракурор трэбуе разгледжываньня справы і прапануе прачытаць паказаньні сьведкаў, паданыя ў сьледаваценя, а ад рэшты сьведкаў зракаецца. Абарона пратэстуе, адзначаючы, што запіс сьледаваценя ня тое самое, што паказаньне жывога чалавека і што самая засада суда грунтуецца на дапросе абедзьвімі старонамі. Пасьля кароткай нарады, суд прыймае прапазыцыю пракурора.

Сьведкаў прыводзяць да салі і здымаюць ад іх прысягу.

З адчытанага акта абвінавачаньня відаць, што Рагулю абвінавачываюць у наступным:

Ледзьве ня чатыры годы таму, 22-га мая 1924 года, паслы Беларускага Пасольскага Клюбу: Кахановіч, Рагуля і Аўсянік, зрабілі ў Навагрудку на Замкавай гары справаздаўчы мітынг, на якім гаварылі дужа вострыя прамовы, проціў Польшчы і яе жондаў.

З гэтых трох, прыцягнуты да адказу, толькі адзін Рагуля, дзеля чаго выкладаецца зьмест толькі яго прамовы.

Рагуля чытаў слухачам адрыўкі з газэтаў аб выбарах у Францыі, Англіі і Германіі, гаварыў, што цэлы сьвет ідзе налева. Гаворачы аб Польшчы, ён казаў аб адбіраньні цэркваў, аб рэлігійных уціосках, аб тым, каб ня пасылалі дзяцей да польскай школы. Гаварыў аб цяжкіх падатках, прычым сказаў: „вы самі разумееце, што я не магу сказаць вам, каб не плацілі падаткаў, але вы і самі разумееце. Далей ён казаў: „мы Беларусы—сіла, нас толькі падзялілі на дзьве часткі, але і тая, усходняя частка таксама ёсьць Беларусь і на-

шы браты за кардонам, нам памогуць. Але перадусім мы мусім спадзявацца на самiх сябе", i тут прывеў верш з вядомай рэвалюцыйнай песьнi:

„Нiкто не даст нам iзбавленья: нi царь, нi раб i нi герой.

Даб'ёмся мы освобожденья своею собственной рукой".

На нашых беларускiх абшарах садзяць асаднiкаў, хочуць зрабiць з яе Польшчу, але тут павiнна быць Беларусь". Закончыў ён прамову акрыкам: „Няхай жыве незалежная Беларусь!"

На падставе ўсяго гэтага, Рагуля абвiнавачываецца, што ён на мiтынгу ў Навагрудку 22-га мая 1922 г., намаўляў людзей да адарваньня ад Польшчы Заходняй Беларусi пры помачы Беларусi закардоннай (Савецкай),—что ён падгаварываў ня плацiць падаткаў i не падпарадкавацца ўладзе, а таксама падбураў адну частку насяленьня процi другой (асаднiкаў), г. ё. праступкi, прадугледжаныя § 129 п. 1, 3 i 6.

На пытаньне прэзэса Рагуля вiнаватым сябе ня прызнае.

Першым паказывае п. **Хмура**,—былы кiраўнiк палiцыi. Ён заяўляе, што за чатыры гады ад часу мiтынга, ён ужо многае забыўся i прыпомнiць ня можа. Памятае толькi, што прамова была вострая i зрабiла на яго ўражаньне варожай да Панст. Польскага. Прыймаючы пад увагу гэта, суд пастанаўляе прачытаць яго паказаньне ў сьледаваценя. На пытаньне цi падцьверджывае ён гэта, Хмара адказывае: — калi там так запiсана, дык напэўна я так i паказываў.

Абарона зварачывае ўвагу суда, што ў запiсаным паказаньнi Хмары Рагуля гаварыў аб аўтаномii Беларусi. На асобныя пытаньнi пракурора i абароны, Хмара паказывае, што Рагуля гаварыў аб Паляках як чужых, як „пшыбышах" на Беларусi. Ён гаварыў яшчэ, што падаткi завысокi, што iдуць яны галоўнае на палiцыю. Гаварыў, што абедзьвы паловы Беларусi павiнны быць злучаны i закончыў вокрыкам аб незалежнай Беларусi. Слухачы мiтынга, пры яго прамове, трымалiся спакойна. Палiцыя i адмiнiстрацыя ня ўмешывалася i мiтынгу не перашкаджала.

Сьведка **Чайкоўскi** паказывае, што Рагуля гаварыў: хто мае толькi чатыры дзесяцiны, можа падаткаў не плацiць. Гаварыў аб падзеленай Беларусi, аб школах, аб тым, што мы павiнны весьцi барацьбу перад усiм праз Сойм, калi i тут ня зможам, — дык iншымi срэдствамi. Ён таксама забыў ужо зьмест паказаньня i яму чытаюць яго паказаньне каб напомнiць.

Трэцi сьведка асаднiк **Шыма**, зусiм нiчога ня памятае. Пасьля адчытаньня яго паказаньня, ён сцьверджывае яго, але пры гэтым адзначае, што частку гэтага паказаньня ён даваў ад сябе, — тое, што сам чуў, а частку са слоў iншых людзей, а не беспасрэдня чуў ад самаго Рагулi. Амаль што не на ўсе запытаньнi прэзэса, пракурора i абароны ён адказывае: не памятаю, ня ведаю, забыўся i г. д., так што прэзэс суда, нiчога ад яго не дабiўшыся, досыць рэзка пасылае яго садзiцца на мейсца.

**Ант. Дулемба** б. войт, цьвердзiць наагул, што паводле яго ўраджаньня прамовы былi дужа рэзкiя. Рагуля называў сябе сацыял-рэвалюцыанiстам, — рэзка гаварыў аб падатках, аб асаднiках, аб школах i г. д.

Далейшыя сьведкi (Каўрыга, Лейка, Скрыбецъ, Чэшыц, Буйвал) зцьвердзiлi, што Рагуля гаварыў рэзкую прамову,— галоўнае што Беларусам не даюць роднай школы, што бяруць вялiкiя падаткi, якiя iдуць пераважна на палiцыю i войска, але не гаварыў, каб зусiм не пасылаць дзяцей да школы, цi каб зусiм не плацiць падаткаў. Гаварыў, што ўсяго гэтага трэба дабiвацца праз Сойм, а каб i там мець большую сiлу, трэба самiм арганiзавацца, як гэта робiцца ў заходняй Эўропе.

Трэба добра памятаць аб тым, што нам нiхто не паможа, ня можна нам нi на каго спадзевацца, апрача самiх сябе. Законьчыў ён прамову вокрыкамi: няхай жыве Беларускi Народ!

Найбольшае паказаньне даў вучыцель,—дыр. Белар. гiмн. у Навагрудку Скрыбец. Ён сьведчыў мiж iншым, што найвастрэйшай была прамова Кахановiча, якi гаварыў першым. Пасьля кахановiча выступляў Рагуля. Ён гаварыў аб тым, што Беларусам не даюць роднай школы. Што падаткi iдуць галоўным чынам на войска i на палiцыю. Аб падатках гаварыў яшчэ так: я не кажу i не магу Вам казаць, каб Вы зусiм не

плацілі падаткаў, але і астатнюю карову таксама прадаваць ня можна. Ня можна паводле закону браць падаткі і з тых ў каго ўся гаспадарка ацэнена ня больш як 3000 злотых. Гаврыў аб тым што астатнія выбары у Англіі і Францыі паказалі што ўвесь свет ідзе налева і што дарогай арганізацыі беларускага народу мы можам таксама ад жонду дабіцца палепшаньня нашага быту. Канца прамовы ён ня чуў бо скончылася паўза, і яму трэба было ісьці ў клясу на лекцыю.

Пасьля перарыву пачалася прамова пракурора.

(працяг будзе).

**Сьведка.**

# Рэзультаты выбарау у Сойм.

Паводле астатніх даных рэзультаты выбараў прадстаўляццаю разам з тымі мандатамі якія кожная партыя павінна атрымаць з дзяржаўнага сьпіску, прадстаўляюцца ў такім відзе:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Сьпісак | № 1 | Блёк „Спаўпрацы з жондам“. . . . . . | 130 | мандатаў |
| „ | № 2 | P. P. S. (Польская Сацыял. Партыя) . . . | 63 | » |
| „ | № 3 | «Вызваленьне» . . . . . . . . . . . . . | 37 | » |
| „ | № 7 | N. P. R. (Народная Работніцкая Партыя) . | 8 | » |
| „ | № 8 | «Сельроб» — правіца (Сел. Раб. Укр. Саюз) . | 5 | » |
| „ | № 10 | S. Ch. («Партыя хлопская») . . . . . . . | 25 | » |
| „ | № 12 | Ch. S. R. (Хлопскае радык. партыя) . . . | 1 | » |
| „ | № 13 | Камуністы . . . . . . . . . . . . . . | 5 | » |
| „ | № 14 | Z. Ch. («Саюз Хлопскі») . . . . . . . . | 3 | » |
| „ | № 17 | Z. N. Z w M. (Жыдоўскі Саюз у Малапольшчы. | 6 | » |
| „ | **№ 18** | **Блёк Нацыянальных Меншасьцяў . . .** | **57** | » |
| „ | № 19 | «Сельроб — лявіца (Укр. Сел. Саюз) . . ) | 4 | » |
| „ | № 20 | «Русски». (Р. Н. О.). . . . . . . . . . | 1 | » |

# 18 18 18

Гэтыя нумаркі выраж і галасуй імі ў Санат 11-га Сакавіка.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| „ | № 21 | N.P.B.P. (Народна-Паньствовы Блёк Працы). | 5 | » |
| „ | № 22 | Блеёк Укр. Сацыял. Раб.-Сял. Партыі . . | 9 | » |
| „ | № 24 | Каталіцкі Нарадовы Бл. . . . . . . . . | 37 | » |
| „ | № 25 | Блёк «Пяста» і польскай Хр.-Дэмокрацыі . | 33 | » |
| „ | № 30 | Каталіцкая «Унія» Зямель Заходніх . . . | 2 | » |
| Розныя мяйсцовыя лісты . . . . . . . . . . . . . | | | 12 | » |

Наш беларускі сьпісак Блёку Нац. Меншасьцяў найбольшы пасьпех меў у Сьвянцянскім павеце дзе ён **здабыў больш як 55тыс. галасоў і атрымаў (з пяцёх) 3 мандаты.** Прайшлі па гэтаму сьпіску: Каруза, Стэповіч, Юхневіч. Ня меншы, а нават і большы пасьпех меў наш сьпісак **у Лідзкім пав.**, дзе за яго падалі каля 70 тысячаў галасоў, гэта дало-б 3 а можа і больш мандатаў, але ён там быў уневажнены, дзеля чаго, пакуль справа аб уневажненьні ў Найвышэйшым Судзе ня будзе разгледжана, мы там мандатаў ня маем.

**Трэба аднакжа памятаць, што да Сэнату № 18 ня ўневажнены і мы ўсе павінны галасаваць за яго.**

У Наваградчыне першы сьпісак «Грамадоўскі» з якога прайшло 2 беларусы.

Урэшце акругоў правясьці нам ня ўдалося, бо напрыклад у Бельшчыне многа Беларусаў па нясьведамасьці галасавалі за ППС (№2), у Віленшчыне — за Вызваленьне, у Горадні — за камуністаў. Слаба галасавалі ў Беластоку і Бресьці.

У Сойме такім чынам будзе нашых беларускіх паслоў чатыры з Блёку (Каруза, Стэповіч, Юхневіч і Ярэміч — па дзяржаўнаму сьпіску) і два з «Грамады» (Дварчанін, Стагановіч). Ня лічым тут двох, якія яшчэ прайшлі па сьпіску Янкі Станкевічыка, бо ня давераем тым, што атрымалі грошы ад польскіх партыяў на разбіцьцё нашых галасоў.

**Памятайце, Браты Беларусы; у нядзелю 11-га сакавіка галасуйце ў Сэнат за № 18.** **Сябра.**

## ЦАРКОЎНАЯ ХРОНІКА.

**Палепшаньне палажэньня архіеп. Пантэлеймана.** Нашы чытачы памятаюць стацьцю у №4-м „Праваслаўнай Беларусі“ за 1927 год. пад назовам „Архіерэйская турма“, гдзе мы апісывалі тое цяжкое палажэньне, у якім знаходзіўся архіеп. Пантэлейман, высланы з сваей Пінскай епархіі „на пакой“ у Мелецкі манастыр, дзе ён адсядзеў каля 6 гадоў. Цяпер мы даведаліся, што палажэньне яго дужа палепшана. З пачатку яго памясьцілі у лепшы пакой там-жа у мелецкім манастыры і павялічылі яму пэнсыю да 200 зал. у месяц. А цяпер як чуваць перавялі у лепшы манастыр у Дзермань на Валыні. Разам з гэтым Сынод прыказаў прызнаваць і называць яго архіепіскапам, які сан быў даны яму патрыархам Ціханам.

**Звальненьне на пакой еп. Антонія.** Ня даўна ў надзвычайнай сэссіі Сынода разглядалася справа еп. Антонія (Марценко) Еп. Антонію Сынод забараніў сьвяшчэнаслужэньне і адправіў на пакой у Мелецкі манатсыр, гдзе сядзеў архіеп. Пантэлейман. Прычыны гэтай неспадзяванай кары Сінод не апублікавывае.

**Духоўная авіацыя.** Сьвяш. Ф. Чыстоўскі з Галамомсельскай царквы Вілен. павету, які некалькі разоў перахадзіў у вунію і ізноў падаў у Сынод прозьбу аб прыняцьці яго ў праваславіе. Сынод у гэтым яму адмовіў і наагул выдаў пастанову, каб такіх пералётчыкаў ня прыймаць назад у сьвяшчэнным сане.

**Філіп Марозаў кандыдат у архірэі?** У сувязі з звальненьнем еп. Антонія сярод праваслаўных кругоў пайшлі чуткі аб магчымасьці кандыдатуры Ф. Марозава.

## Палітычная хроніка.

### АДОЗВА
### Беларускага Навуковага Кабінэту ў Празе-Чэскай.

Да ўсіх беларускіх навуковых установаў культура-прасьветных арганізацыяў і дзеячоў ды рэдакцыяў часопісаў, як за межамі, гэтак і ў краі.

Вельміпаважаныя Грамадзяне!

Маем горар паведаміць Вас, што ў Празе заснавауся Беларускі Навуковы Кабінэт, як беларуская навукова-дасьледчая ўстанова, дачасна пры Украінскім Інстытуце Грамадазнаўства, маючы на мэце ў будучыні адасобніцца і зусім усамастойніцца, ды приступіў да свае чыннасьці з лістапада месяца 1927 г.

У бліжэйшым часе Беларускі Навуковы Кабінэт ставіць сабе гэткія заданьні:

1) Зьбіраньне і сыстэматызаваньне матэрыялаў аб Беларусі ў галіне гэаграфіі, гісторыі, літэратуры і мастацтва, гаспадаркі ды інш., а таксама матэрыялаў да гісторыі беларускага вызвальна-адраджэнскага руху.

2) Арганізацыя бібліатэкі беларусазнаўства і беларускага музэю-архіву.

3) Навуковы досьлед і вывучаньне асабліваcьцяў Беларусі, як гэаграфічнай, культурна-гістарычнай, сацыяльна-эканамічнай і лінгвістычнай адзінкі ды яе мейсца ў сыстэме ўзаемаадносін народаў Усходняе Эўропы.

4) Дасьледжываньне прыродных багацьцяў Беларусі, сучаснага гаспадарча-эканамічнага, культурнага і палітычнага стану Беларускага Народу, тэндэнцыяў і пэрспэктываў ягонага разьвіцьця, а таксама вывучаньне праўных нормаў якімі фактычна рэгулюецца гаспадарчае, культурнае ды палітычнае жыцьцё Беларускага Народу ў абставінах розных рэжымаў.

5) Высьвятленьне агульных падва-

лін самастойнага існаваньня Беларусі ды ўключэньня яе ў сусьветную сыстэму культурнай, гаспадарчай і палітычнай міжнароднай узаемнасьці ды збліжэньня.

б) Дзеля зьдзейсьненьня гэтых заданьняў Беларускі Навуковы Кабінэт, у асобе яго сэкратара-кіраўнічага, запрашае адпаведны лік сталых супрацоўнікаў-карэспандэнтаў, выпісвае беларускія пэрыядычныя ды інш. выданьні, ладзіць даклады, падрыхтоўвае да друку матэрыялы, ладзіць іх выданьні, каб у гэтакі спосаб — шляхам выданьня адумыснага зборніку, а таксама брашур ды інш. працаў Б. Н. К. — знаёміць шырэйшыя колы беларускага і чужога грамадзянства аб узапраўдным стане Беларусі.

Даводзячы аб гэтым да Вашага ведама, зьвяртаемся, разам з тым заклікам да Вас аб сталым высыланьні ў бібліятэку беларусазнаўства Вашых друкаў ды, у меру мажлівасьці, матэрыялаў музейна-архіўнага характару, ў музей-архіў Беларускага Навуковага Кабінэту.

З глыбокай пашанай
**Сэкрэтарыят Б. Н. К.**
(Чэхаславакія, Praha III, Šerikova 4/III).

**Канец міністэрскага крызысу ў Югаславіі.** У Югаславіі нарэшце стварыўся коаліцыйны (з усіх партыяў сойму) урад пад старшынством Вуніцэвіча. Новы кабінэт злажыў прысягу і прыступіў да працы.

**Жыды асаднікі ў Сыбіры.** Прэзыдыум усесаюзнага камітэту па справам перасяленчаства ў СССР. пастанавіў аддаць Барбіджанскі вокруг у Сыбіры на мэты жыдоўскай калёнізацыі.

**Дзесяцігодзьдзе Эстоніі.** 25-га лютага Эстонія ўрачыста адсьвяткавала 10-годзьдзе свайяго незалежнага існаваньня. Адбыўся ўрачысты прыём паслоў інастранных дзяржаваў. Па поваду гэтага ўзнік у Эстоніі разлад з Немцамі, бо эстонскі ўрад у маніфэсьце, выданым у гэты дзень абвінавачывае Германію ў імкненьні да захвату Эстоніі. У знак пратэсту немецкі пасол на ўрачыстасьці не з'явіўся.

**Падарожа Аўганістанскага караля.** Аманулах, кароль Аўганістану якога цяпер, маючы на ўвазе яго працу па адраджэньню Аўганістану. называюць Аўганістанскім Пятром Першым, езьдзіць цяпер па ўсіх старонках Эўропы. Усюды яго прыймаюць з вялікім пачотам. Цяпер ён знаходзіцца ў Бэрліне і скора паедзе у СССР. У Маскве яму прыгатаўляюць урачысты прыём. На гэтым прыёме, як паведамляюць газэтныя агенствы да Аманулаха з'явіцца індуская дэлегацыя з прозьбай аб вызваленьні іх ад улады Англіі.

**Польска-Нямецкія таргговыя перагаворы** ўзновяцца ў канцы сакавіка.

**У Англіі забастоўка мэталістаў**, з поваду канфлікту паміж рабочымі і фабрыкантамі. На фабрыках па апрацаваньню мэталяў каля 60.000 рабочых.

**Зьмена Констытуцыі ў Літве.** У літоўскіх урадавых кругох у Коўні выпрацавалі праект зьмены Констытуцыі яшчэ ў верасьні мінулага году. Цяпер замест гэтага праэкту выпрацаваны яшчэ новы. Урад хоча цяпер стварыць асобную юрыдычную камісыю для разгледжаньня гэтых праэктаў. Новая форма праўленьня як гавораць будзе аснована на прадстаўніцтве ад прафэсыянальных саюзаў, а не сасловіяў ці кляcаў. Гэта будзе нейкай новасьцью сярод эўрапейскіх дзяржаваў.

**Адказная нота Вальдэмараса Польшчы.** Горача абсуджваецца у Эўропе. Галоўнае пытаньне, ці перагаворы будуць ісьці пры помачы Лігі Нацыяў, чаго дамагаецца Літва.

**У Баўгарыі міністэрскі крызыс.** З поваду адстаўкі міністра каляў зялезных.

**Бюджэт С. С. С. Р.** „Совнарком" (Савет нар. хазяйства) сьцьвердзіў бюджэт С. С. С. Р на 1928 год. Даходы вылічаны у суме 6.035.000.000 р (шэсьц мільярдаў). З гэтай суммы 2823 мільёнаў складаюцца з падаткаў, а 2632 міл. з іншых даходаў; 525 міл. — з пазычак. Расходы, вылічаны ў 5863 міл. руб., прычым 1.200 міл. — на народную гаспадарку (600 міл. на прамысловасьць, 136 міл. на электрафікацыю, 172 міл. на гаспадарку і 172 міл. — у запас).

## ЗЬМЕСТ.



Рэдактар-выдавец: Л. Голад. Друк. ім. Ф. Скарыны, Людвісарская 1.